ПРОЛЕТАРЫ ЎСІХ КРАІН, ЗЛУЧАЙЦЕСЯ!

# БЛЁК-НОТ АГІТАТАРА

АГІТМАСАВЫ АДДЗЕЛ ЦК КП(б)Б

## АБ ПАЛІТАДДЗЕЛАХ МТС І САЎГАСАЎ І АБ КОЛГАСНАЙ ЯЧЭЙЦЫ

ЧЭРВЕНЬ

№ 12 (27)

ДВБ ПАРТМАССЭКТАР
1933

Літправўка Н. Бокай
Карэктар С. Дамаронак
Тэхрэдактар І. Мілешко
Здана ў друкарню 24/VI-33 г.
Падпісана да друку 26-VI-33 г.
Набрана на ліп. № 6.

## ЗЬМЕСТ

*Стар.*



---

Заказ № 1590, 12.000 экз. (1½ арк.) Уп.Галоўлітбелу №а 524.

Друкарня імя Сталіна

# ДЛЯ ЧАГО ПАРТЫЯ СТВАРЫЛА ПОЛІТАДДЗЕЛЫ Ў МТС І САЎГАСАХ?

Рашэньне стварыць політаддзелы ў МТС і саўгасах было прынята партыяй па ініцыятыве яе правадыра т. **Сталіна** на студзеньскім аб'яднаным пленуме ЦК і ЦКК УсеКП(б), у той момант, калі наша краіна рабіла гістарычны перавал ад першай пяцігодкі да другой— пяцігодкі пабудовы бясклясавага соцыялістычнага грамадзтва.

**З чаго выходзіла партыя, прымаючы рашэньне аб стварэньні політаддзелаў у МТС і саўгасах?**

Яна выходзіла перш за ўсё з тых вынікаў, з якімі мы прышлі да рубяжа другой пяцігодкі. За першую пяцігодку, яе грандыёзныя пляны рабочая кляса і працоўныя нашай краіны пад кіраўніцтвам партыі выканалі ў чатыры гады, мы ў справе соцыялістычнай рэконструкцыі сельскай гаспадаркі дабіліся перамог сусьветна-гістарычнага значэньня. Нам удалося ператварыць СССР з краіны дробнасялянскай гаспадаркі ў краіну самай буйнай сельскай гаспадаркі ў сьвеце, організаванай на базе колектыўнай працы і перадавой тэхнікі. Мы разграмілі кулацтва — гэтую апошнюю эксплёататарскую клясу ў нашай краіне, і

падрубілі карэньні капіталізму ў вёсцы. 200 тысяч колгасаў і 5 тысяч саўгасаў, арганізаваныя намі за апошнія тры гады, звыш 60 проц. сялянскіх гаспадарак, аб'яднаных пад колгасным сьцягам, 21 мільён **га** прыросту пасеўных плошчаў за першую пяцігодку, амаль у тры разы ўзросшыя магчымасьці загатовак збожжа (з 500—600 мільёнаў пудоў да 1200—1400 мільёнаў пудоў штогодна),—вось некаторае цыфравое выражэньне нашых перамог.

**Новы, колгасны лад перамог у вёсцы канчаткова і беспаваротна.**

> «Цяпер пытаньне стаіць ужо не аб тым, быць ці ня быць колгасам,—гэтае пытаньне ўжо вырашана станоўча. Колгасы замацаваны, і шлях да старой аднаасобнай гаспадаркі закрыт канчаткова. Цяпер задача заключаецца ў тым, каб умацаваць колгасы **арганізацыйна**, вышыбіць адтуль шкодніцкія элемэнты, падабраць сапраўдныя, праверапыя бальшавіцкія кадры для колгасаў і зрабіць колгасы сапраўды бальшавіцкімі.
>
> У гэтым цяпер галоўнае» (І. Сталін, «Вынікі першай пяцігодкі»).

Перамога колгаснага ладу, стварэньне ў вёсцы ў асобе колгасаў і саўгасаў моцнай экономічнай базы соцыялізму азначае, што

мы маем цяпер усё неабходнае для таго, каб далейшы ўздым сельскай гаспадаркі, каб разгортваньне вытворчасьці сельскагаспадарчых продуктаў і сыравіны для нашай індустрыі, каб эканомічны і культурны росквіт вёскі ішоў быстрымі тэмпамі. Задача заключаецца «ўсяго толькі» ў тым, каб гэтыя магчымасьці ператварыць у рэальную рэчаіснасьць, каб гэтыя магчымасьці практычна рэалізаваць. Задача заключаецца ў тым, каб, дабіваючыся ператварэньня ўсіх колгасаў у бальшавіцкія, на гэтай аснове падняць усіх колгасьнікаў да ўзроўня заможных.

У нас ёсьць нямала ўзораў прыкладнай работы колгасаў, якія добра паставілі сваю гаспадарку і ўжо далі вельмі добрыя рэзультаты ў сэнсе палепшаньня жыцьця колгасьнікаў. Пададзім некалькі прыкладаў.

Вось што расказваў т. **С. Архіпенка,** старшыня колгасу **імя Калініна** (Рагачоўскі раён) аб сваім колгасе на Ўсебеларускім зьезьдзе колгасьнікаў-ударнікаў:

> «Мы можам заявіць Усебеларускаму зьлёту колгасьнікаў-ударнікаў, што ў нашым колгасе цяпер няма нікога, хто-б адчуваў нястачу хлеба, бульбы ці іншых продуктаў. Кожны колгасьнік мае карову, гарод, трымае сьвіней, гусей, курэй і т. д. У нас ёсьць такія колгасьнікі, якія атрымалі па 120—150 пудоў збожжавых культур, па 1000—1200 пудоў

> бульбы. Яны ня толькі забясьпечаны самі, але маюць магчымасьць прадаць дзяржаве. У колгасе няма ніводнага колгасьніка, які-б ня меў добрай вопраткі і абутку. Наш колгас ужо стаў на шлях практычнай рэалізацыі ўказаньня т. Сталіна аб тым, каб кожнага колгасьніка зрабіць заможным. У нас ёсьць каля 10 колгасьнікаў, якія маюць па 6 сьвіней, дастаткова хлеба, малака, добрую кватэру. У нас ня рэдкасьць убачыць у хаце колгасьніка збор твораў Леніна, Малую савецкую энцыклёпэдыю, Унівэрсытэт на даму і т. д.».

А вось што расказвае аб былым пастуху, цяперашнім члене колгасу «Пролетары» (Гомельскі раён), **Уладзімеру Майстраве** ўдарнік гэтага-ж колгасу т. С. Таўсты:

> «Вось працуе ў нас колгасьнік Майстраў Уладзімер. Пастухом ён быў раней, атрымліваў капейкі, якіх яму не хапала на жыцьцё. Заўсёды Майстраў хадзіў абадраны, абшарпаны. У колгасе Майстраў з першага-ж дня аддаўся рабоце. Адным з лепшых ударнікаў стаў. Зразумела, за сваю працу ён атрымаў, колькі яму належыць. Зарабіў ён за год 170 пудоў бульбы, 60 пудоў аўса, 52 пуды грэчкі, 400 рублёў грашыма ды яшчэ іншых продуктаў. Ня было гэтага ў яго раней

ніколі. Набыў сабе Майстраў добрыя боты, апрануўся. Сьвятлей і весялей стала ў яго хаце».

Ня менш яскравы расказ колгаснага конюха Якуба Шырокага аб сваім колгасе імя Дзяржынскага (Бабруйскі раён):

«Мінулы год быў пераломным у рабоце колгасу. Ураджай мы зьнялі ня дрэнны. Жыта—11 **цнт.** з **га,** пшаніцы—10 **цнт,** ячменю—**12 цнт.** і аўса—9,6 **цнт.** Добры ўраджай—вынік нашай работы па гаспадарча-організацыйным умацаваньні колгасу. Аднаго збожжа на працадзень у нас прыпадае 4 **кг** 800 **гр.** На выпрацаваныя маёй сям'ёй 697 працадзён я атрымаў 100 пудоў жыта, 27 пудоў ячменю, 30 пудоў пшаніцы і 400 пудоў бульбы. Забясьпечылі мы сябе ўсім, чым толькі патрэбна. І дзяржаве прадалі кожны са сваіх рэсурсаў. Колгас перавыканаў плян загатовак і добра падрыхтаваўся да веснавой сяўбы».

**Такіх колгасаў у нас цяпер не адзінкі, а сотні і тысячы. Іх прыклады яскрава паказваюць, якіх рэзультатаў могуць дабіцца ўжо цяпер нашы колгасы пры правільным бальшавіцкім кіраўніцтве.**

Але калі мы падагульняем нашы буйнейшыя перамогі ў сельскай гаспадарцы, мы ня можам абыйсьці тыя буйныя недахопы, якія

ёсьць у нашай рабоце ў вёсцы, у колгасным і саўгасным будаўніцтве.

Гэтыя недахопы і прычыны, выклікаўшыя іх, былі з усёй бальшавіцкай праматой і рэзкасьцю паказаны і ўскрыты т. Сталіным у яго гістарычнай праграмнай прамове аб рабоце ў вёсцы на студзеньскім аб'яднаным пленуме ЦК і ЦКК УсеКП(б).

**Дзе прычыны недахопаў нашай работы ў вёсцы?**

Яны, перш за ўсё, у тым, што **«нашы таварышы на мясцох, нашы вясковыя работнікі ня здолелі ўлічыць новай абстаноўкі ў вёсцы, створанай абвяшчэньнем колгаснага гандлю хлебам»** (Сталін).

Колгасны гандаль—магутны вагар арганізацыйна-гаспадарчага ўмацаваньня колгасаў. Колгасны гандаль быў уведзен партыяй у інтарэсах расшырэньня базы тавараабароту паміж горадам і вёскай і палепшаньня снабжэньня рабочых сельскагаспадарчымі продуктамі, а сялянства—промтаварамі. Колгасны гандаль быў уведзен партыяй для таго, каб даць колгасьніку дадатковую крыніцу даходу, умацаваць яго эканомічнае становішча, даць колгасьніку новы штуршок для палепшаньня работы колгасу.

Але колгасны гандаль унёс новае ў абстаноўку вёскі. Існаваньне двух цэн на хлеб—рыначнай і дзяржаўнай—парадзіла ў некато-

рай часткі сялян спробы папрытрымаць хлеб, каб прадаць яго потым па больш дарагой цане. Гэтых адмоўных бакоў колгаснага гандлю не зразумелі і ня ўсвоілі многія нашы вясковыя комуністы. Таму, замест патрэбнага ўзмацненьня збожжазагатоўчай работы, многія організацыі, наадварот, паслабілі сваю работу ў гэтым напрамку і паклаліся на самацёк.

Па-другое, прычыны недахопаў нашай работы ў вёсцы ў тым, што **«нашы таварышы на мясцох,—і ня толькі гэтыя таварышы,—не зразумелі зьмяненьня ўмоў нашай работы ў вёсцы, якое адбылося ў сувязі з замацаваньнем пануючага становішча колгасаў...»** (Сталін). Некаторыя комуністы і парторганізацыі лічылі, што перамога колгаснага ладу зьнімае з іх, або, ва ўсякім выпадку, памяншае іх клопаты аб сельскай гаспадарцы. Яны не зразумелі і не разумеюць таго, што якраз «колгасны лад не памяншае, а павялічвае клопаты і адказнасьць партыі і ўраду ў адносінах разьвіцьця сельскай гаспадаркі». Раней, калі ў вёсцы пераважаў аднаасобны гаспадар, аднаасобнік сам павінен быў клапаціцца аб сваёй гаспадарцы, яму ня было на каго ўзвальваць адказнасьць за гэтую гаспадарку.

Партыя-ж магла абмежаваць сваё ўмяшацельства ў процэсы разьвіцьця сельскай гаспадаркі асобнымі актамі парады, дапамогі і папярэджаньняў. Зараз-жа з пераходам на

колектыўную гаспадарку справа карэнным чынам зьмянілася. Цяпер партыя абавязана ўваходзіць ва ўсе дэталі колгаснага жыцьця і колгаснай вытворчасьці, цяпер партыя павінна ўсямерна ўзмацняць свае сувязі з колгасамі, «павінна ведаць усё тое, што адбываецца ў колгасах, каб у час прыйсьці на дапамогу і папярэдзіць пагражаючыя колгасам небясьпекі».

Па-трэцяе, прычыны недахопаў нашай работы ў вёсцы ў тым, што **«многія нашы таварышы пераацанілі колгасы, як новую форму гаспадаркі, пераацанілі і ператварылі іх у ікону».** Гэтыя таварышы не зразумелі таго, што колгас, хоць і зьяўляецца соцыялістычнай формай гаспадаркі, ёсьць усё-ж толькі форма. Справа заключаецца ў тым, якім зьместам будзе напаўняцца гэтая форма, Справа заключаецца ў тым, хто будзе кіраваць гэтымі колгасамі.

> «Колгасы, як соцыялістычная форма організацыі гаспадаркі, — гаворыць т. Сталін,—могуць паказаць цуды гаспадарчага будаўніцтва, калі на чале іх стаяць сапраўдныя рэволюцыянэры, бальшавікі, комуністы. І наадварот—колгасы могуць ператварыцца на пэўны пэрыод у прыкрыцьцё ўсякага роду контррэволюцыйных дзеяньняў, калі ў колгасах будуць верхаводзіць эсэры і меншавікі, пятлюраўскія афіцэры і іншыя

> белагвардзейцы, былыя дзянікінцы і калчакаўцы» (І. Сталін, «Аб рабоце ў вёсцы»).

«Нэйтральных» колгасаў няма і быць ня можа. Там, дзе дрэнна працуюць комуністы, там, дзе паслаблена наша кіраўніцтва, там дзейнічае клясавы вораг.

> «Нэйтральныя» колгасы, — гаворыць т. Сталін,—гэта фантазія людзей, якім даны вочы для таго, каб нічога ня бачыць. Пры такой вострай клясавай барацьбе, якая ёсьць у нас цяпер у Савецкай краіне, для «нэйтральных» колгасаў не астаецца ўжо месца, пры такой абстаноўцы колгасы могуць быць **або** бальшавіцкімі, **або** антысавецкімі. І калі мы ня кіруем у тых або іншых колгасах, то гэта значыць, што імі кіруюць антысавецкія элемэнты» (І Сталін, «Аб рабоце ў вёсцы»).

Па-чацьвертае, прычыны недахопаў нашай работы ў вёсцы заключаюцца **«ў няўменьні цэлага раду нашых таварышоў на мясцох перабудаваць фронт барацьбы з кулацтвам, у неразуменьні таго, што твар клясавага ворага зьмяніўся за апошні час, зьмянілася тактыка клясавага ворага ў вёсцы і што адпаведна з гэтым трэба зьмяніць сваю тактыку, каб дабіцца посьпехаў» (Сталін).**

Поўная і канчатковая перамога колгаснага ладу, разгром кулацтва зусім не азначаюць, што клясавая барацьба ў вёсцы закончана, ліквідавана, адмерла. Кулацтва разгромлена, але не дабіта. Гэтае недабітае кулацкае ахвосьце шалёна супраціўляецца. Зразумела, з пункту гледжаньня разьмяшчэньня клясавых сіл у вёсцы мы цяпер моцныя, як ніколі. Гэтым, перш за ўсё, і аб'ясьняецца зьмяненьне тактыкі клясавага ворага, які вымушан маскавацца, падыгрывацца пад колгасьнікаў, прыкідвацца амаль што не сьвятым. Гэтым аб'ясьняецца, што кулацкія элемэнты не выступаюць адкрыта, а стараюцца пралезьці ў колгасы і саўгасы і там знутры, «ціхай сапай» падрываць нашу работу.

Многія комуністы не зразумелі асаблівасьцяй клясавай барацьбы на даным этапе. Яны парашылі, што калі кулацтва як кляса ў асноўным ліквідавана, значыцца ліквідаваны ўсе кулакі, значыцца зьнікла кулацкае супраціўленьне. Тав. Кагановіч на студзеньскім пленуме ЦК і ЦКК УсеКП(б) наконт гэтага гаварыў:

> «На сяле яшчэ асталіся прадстаўнікі кулацтва. Яны намі разьбіты, патрапаны, страцілі ранейшую магутнасьць, але яшчэ жывыя. Жывыя і прабуюць выкарыстаць усякі наш промах, малейшую слабасьць у нашай рабоце для сваёй

агітацыі, для разлажэньня колгасаў, для організацыі супраціўленьня пролетарскай дзяржаве. Гэта, па-першае, частка нявыселеных кулакоў; па-другое, заможныя сяляне, якія перарастаюць у кулацтва і цесна змыкаюцца з ім; па-трэцяе, тыя, якія ўцяклі з ссылкі і хаваюцца ў сваіх сваякоў, а часам і ў «сэрдабольных» членаў партыі, якія маюць партыйныя білеты ў кішэні, а на справе зьяўляюцца прадажнікамі інтарэсаў працоўных. І, нарэшце, прадстаўнікі буржуазнай—белагвардзейскай, пятлюраўскай, казацкай, эсэраўскай і інш.— інтэлігенцыі».

Але справа ня толькі ў гэтым кулацкім ахвосьці. Кулацкае супраціўленьне, кулацкая псыхолёгія і ідэолёгія жывуць у выглядзе перажыткаў, якія караняцца яшчэ ў некаторых колгасьнікаў. **Нельга ідэалізаваць колгасьніка.** Яшчэ на конфэрэнцыі аграрнікаў-марксыстаў у 1929 г. т. Сталін указваў на тое, што ўчарайшы аднаасобнік, сёньня, уступіўшы ў колгас, не становіцца адразу ад гэтага соцыялістам, ён прынёс з сабой у колгас аграмадны груз дробна-ўласьніцкіх навыкаў, прывычак і тэндэнцый. Патрэбна пільная і карпатлівая работа, каб перавыхаваць гэтага колгасьніка. І трэба разумець, што стварэньнем колгасу гэтая барацьба за соцыялістыч-

ную пераробку селяніна не завяршаецца, а пасапраўднаму толькі пачынаецца.

Гэтага не зразумелі многія таварышы. Пераацэнка, ідэалізацыя колгасаў і колгасьнікаў, няўменьне ўскрыць новую тактыку клясавага ворага і даць яму руйнавальны адпор, прывялі ў многіх колгасах да таго, што імі кіравалі антысавецкія элемэнты, што ў гэтыя колгасы пралезьлі кулакі і падкулачнікі, жулікі і зладзеі, і разлагалі гэтыя колгасы знутры.

Нарэшце, апошняя, пятая прычына недахопаў нашай работы ў вёсцы заключаецца ў **«недаацэнцы ролі і адказнасьці комуніста ў справе колгаснага будаўніцтва»** (Сталін).

Тав. Сталін гэтае пытаньне паставіў на студзеньскім пленуме ЦК і ЦКК УсеКП(б) з выключнай вастрынёй і праматой. Ён гаварыў:

> «**Мы** вінаваты ў тым, што не разглядзелі адмоўных бакоў колгаснага гандлю збожжам і допусьцілі рад грубейшых памылак. **Мы** вінаваты ў тым, што цэлы рад нашых організацый адарваўся ад колгасаў, супакоіўся на лаўрах і аддаўся стыхіі самацёку. **Мы** вінаваты ў тым, што цэлы рад нашых таварышоў усё яшчэ пераацэньвае колгасы, як форму масавай організацыі, не разумеючы, што справа ня столькі ў самой форме, колькі ў тым,

каб самім узяць на сябе кіраўніцтва колгасамі і вышыбіць з кіраўніцтва колгасамі антысавецкія элемэнты. **Мы** вінаваты ў тым, што, не разглядзелі новай абстаноўкі і не ўясьнілі сабе новую тактыку клясавага ворага, які дзейнічае ціхай сапай» (І. Сталін, «Аб рабоце ў вёсцы»).

У гэтай-жа сваёй прамове **т. Сталін і высунуў ідэю стварэньня політаддзелаў у МТС і саўгасах як адзін з рашаючых сродкаў, пры дапамозе якіх можна будзе ў самы кароткі тэрмін устараніць недахопы нашай работы ў вёсцы.**

Такім чынам, для таго, каб палепшыць кіраўніцтва сельскай гаспадаркай, не абмяжоўваючыся, як гаварыў **т. Сталін,** паасобнымі актамі ўмяшаньня ў процэс сельскагаспадарчага разьвіцьця, а ўзяць у свае рукі кіраўніцтва колгасамі, прыняць на сябе адказнасьць за работу, уваходзіць ва ўсе дэталі колгаснага жыцьця, для таго, каб паставіць на належную вышыню справу соцыялістычнага перавыхаваньня шырокіх мас колгасьнікаў, зрабіць колгасы сапраўды бальшавіцкімі, політычна ўмацаваць МТС і саўгасы, павысіць іх політычную ролю і ўплыў на сяле, рашуча палепшыць політычную і гаспадарчую работу нашых ячэек у колгасах і саўгасах, рашуча выправіць памылкі і недахопы на-

шых вясковых партыйных організацый,— **партыя стварыла політычныя аддзелы МТС і саўгасаў.**

## ЯКІЯ ЗАДАЧЫ ПАРТЫЯ ПАСТАВІЛА ПЕРАД ПОЛІТАДДЗЕЛАМІ?

У рэзолюцыі студзеньскага аб'яднанага пленуму ЦК і ЦКК УсеКП(б) гаворыцца:

> «Галоўнейшым вагаром перабудовы сельскай гаспадаркі на соцыялістычны лад і няспыннага ўзмацненьня савецкага ўплыву на колгасьнікаў зьяўляюцца машына-трактарныя станцыі і саўгасы, як буйнейшыя фабрыкі соцыялістычнага земляробства.
>
> Машына-трактарныя станцыі і саўгасы заваявалі сабе трывалае месца ў соцыялістычнай сельскай гаспадарцы ў якасьці організатараў сыстэмы аграмаджанай гаспадаркі. Аднак, ня гледзячы на буйнейшую організацыйна-гаспадарчую ролю і ўплыў МТС у справе тэхнічнага пераўзбраеньня і соцыялістычнай перабудовы сельскай гаспадаркі, іх **політычны** ўплыў на шырокія масы колгасьнікаў покуль яшчэ зусім недастатковы. МТС вельмі часта ня маюць політычнага твару. Унутры МТС скрозь і ўсюды працьвітаюць злачынна-нядбайныя адносіны да заданьняў партыі і ўраду, злачынныя адносіны да дзяр-

жаўнай маемасьці, крадзёж і раскраданьне колгаснай маемасьці і дзяржаўнай уласнасьці. Клясава-варожыя элемэнты нярэдка пранікаюць у самыя МТС, вядучы знутры работу па ўзмацненьні антысавецкага ўплыву на колгасьнікаў.

Гэта ў значнай меры адносіцца і да саўгасаў. Ня гледзячы на перадавую ролю саўгасаў у справе тэхнічнага пераўзбраеньня і соцыялістычнай перабудовы сельскай гаспадаркі, да гэтага часу іх палітычны і гаспадарчы ўплыў на колгасы яшчэ недастатковы. Замест узорнай работы па аваłоданьні і выкарыстаньні тэхнічнага ўзбраеньня саўгасаў і паказу на практыцы пераваг буйнага сельскагаспадарчага прадпрыемства перад дробнай, індывідуальнай гаспадаркай, у саўгасах праяўляюцца часам буржуазныя тэндэнцыі, працьвітаюць злачынна-пагардлівыя адносіны да дзяржаўнай маемасьці, барбарскія адносіны да трактароў, аўтомашын, комбайнаў і жывёлы, раскрадаецца і разбазарваецца продукцыя саўгасаў, ня выконваюцца заданьні партыі па здачы дзяржаве продукцыі».

Таму

«У мэтах палітычнага ўмацаваньня МТС і саўгасаў, павышэньня палітычнай

ролі і ўплыву МТС і саўгасаў на вёсцы і рашучага палепшаньня палітычнай і гаспадарчай работы нашых ячэек у колгасах і саўгасах ЦК УсеКП(б) пастанавіў організаваць ва ўсіх машына-трактарных станцыях і саўгасах **політаддзелы** на чале з намесьнікамі дырэктароў МТС і саўгасаў па палітычнай частцы, якія зьяўляюцца разам з тым начальнікамі політаддзелаў МТС і саўгасаў» (з рэзолюцыі студзеньскага пленуму ЦК і ЦКК УсеКП(б)).

Політаддзелы організуюцца ў складзе начальніка, двух яго намесьнікаў па агульнапартыйнай рабоце і аднаго памочніка па комсамольскай рабоце.

Пры кожным політаддзеле павінна выходзіць газэта. У штат політаддзелу ўводзіцца пастаянны рэдактар гэтай газэты, а таксама і жанорганізатар. Да кожнага політаддзелу прымацоўваецца кіно-перасоўка і павінен быць створан кніжна-газэтны кіёск.

Стварэньнем політаддзелаў партыя не ламае прынцыпу адзінаначальля ў гаспадарчым кіраўніцтве МТС і саўгасаў. Політаддзелы павінны не падмяняць у сваёй рабоце дырэктара МТС і саўгасаў, а дапамагаць ім сваёй масава-палітычнай, організацыйна-партыйнай і выхаваўчай работай вырашаць задачы, якія стаяць перад імі.

Асноўныя і актуальныя задачы, якія стаяць цяпер перад політаддзеламі, зводзяцца да наступнага:

Усямерна ўзмацніць гаспадарча-політычную і політыка-выхаваўчую работу вясковых ячэек партыі і комсамолу; стварыць баявы партыйна-комсамольскі актыў унутры саўгасаў, МТС і абслугоўваемых МТС колгасаў; скалаціць актыў з перадавых колгасьнікаў і рабочых саўгасаў вакол партыйных і комсамольскіх ячэек; разгарнуць барацьбу за недатыкальнасьць соцыялістычнай уласнасьці; выкрываць опортуністаў, кулакоў, саботажнікаў, лодыраў і выганяць іх з радоў партыі, колгасаў, саўгасаў, з усіх гаспадарчых і грамадзкіх організацый вёскі; змагацца за высокі, устойлівы ўраджай, за своечасовую і высокаякасную праполку і ўборку ўраджаю; умацаваць парадак і дысцыпліну ў колгасах і саўгасах; замацаваць сталую вытворчую брыгаду, як рашаючае зьвяно ў барацьбе за організацыйна-гаспадарчае ўмацаваньне саўгасаў і колгасаў.

Політаддзелы павінны **«забясьпечыць партыйнае вока і контроль ва ўсіх галінах работы і жыцьця як саміх МТС і саўгасаў, так і абслугоўваемых МТС колгасаў»** (з рэзолюцыі пленуму). У якасьці важнейшай задачы політаддзелаў пленум ЦК і ЦКК УсеКП(б) высунуў контроль за расстаноўкай кадраў у саўгасах і колгасах, контроль за тым, каб на

адказьнейшых вучастках—на трактары, на сеялцы, на малатарні, на ўліку збожжа і маемасьці працавалі найбольш праверавыя колгасьнікі і рабочыя саўгасу.

Першачарговая задача політаддзелаў заключаецца ў забесьпячэньні бязумоўнага і своечасовага выкананьня саўгасамі, колгасамі і колгасьнікамі сваіх абавязацельстваў перад дзяржавай, у разгортваньні рашучай барацьбы з раскраданьнем соцыялістычнай уласнасьці, са зьявамі саботажу мерапрыемстваў партыі і ўраду ў справе збожжазагатовак і мясазагатовак у колгасах, са спробамі проціпаставіць вузкія інтарэсы саўгасу агульным інтарэсам дзяржавы, з праявамі ўкрыцьця лішкаў саўгаснай продукцыі замест здачы яе дзяржаве.

**Якім чынам політаддзелы могуць выканаць гэтыя свае задачы?**

Яны павінны скалаціць партыйны і комсамольскі актыў унутры саўгасу, МТС і абслугоўваемых МТС колгасаў. Яны павінны скалаціць беспартыйны актыў вакол партыйных і комсамольскіх ячэек, павесьці рашучую барацьбу за ізоляцыю і выгнаньне антыграмадзкіх элемэнтаў і заваяваць большасьць унутры колгасаў і саўгасаў. Аб гэтай задачы політаддзелаў т. Кагановіч сказаў наступнае:

> «Ліквідаваўшы акругі, партыя дабралася да раёну, умацавала яго, стварыла райкомы, якія яшчэ маюць многа неда-

хопаў, але апраўдалі сябе, і партыя будзе ўмацоўваць і паляпшаць іх. Але на раёне мы ня можам спыніцца. Трэба ісьці далей—да ячэйкі, да сяла, да колгасу, да МТС, да саўгасу. Там ёсьць добрыя людзі, нашы людзі, адданыя работнікі, але яны распылены, у іх няма стрыжня, вакол якога яны маглі-б аб'яднацца і згуртавацца ў моцнае бальшавіцкае ядро. Політаддзелы павінны стаць тым бальшавіцкім мэталем, які змацуе і організуе ўсе нашы сілы ў вёсцы».

«Нам трэба стварыць беспартыйны актыў, які будзе разам з намі біцца ва ўсіх і ўсякіх выпадках, актыў, які будзе весьці за сабой асноўную масу... Заваяваць большасьць у колгасах можна толькі ў барацьбе з антыколгаснымі элемэнтамі, з кулацкім ахвосьцем. Стварыць актыў беспартыйных можна ня проста формальна, зьбіраючы яго пры праўленьні, а згуртоўваючы яго кожны дзень, кожную гадзіну на конкрэтных фактах барацьбы за ўздым колгасаў, за палепшаньне якасьці работы, супроць кулака, супроць злодзеяў, супроць раскрадальнікаў, супроць лодыраў, супроць рвачоў, супроць тых, хто процІпастаўляе інтарэсы колгасаў інтарэсам пролетарскай дзяржавы» (К а г а н о в і ч).

Гэтую справу згуртаваньня бальшавіцкага ядра ў колгасах і саўгасах політаддзелы павінны весьці на аснове шырокай масава-выхаваўчай работы.

Як-жа павінна быць організавана гэтая масава-выхаваўчая работа?

> «Масавая работа павінна быць умела організавана і насіць **наступальны** характар, сваячасова выкрываць усе манэўры клясавага ворага, выкрываць злодзеяў колгаснага і саўгаснага дабра, лодыраў і рвачоў. Яна павінна быць накіравана на ўмацаваньне працоўнай дысцыпліны, разьвіцьцё соцспаборніцтва і ўдарніцтва, на павышэньне якасьці апрацоўкі зямлі і выкананьне колгаснікамі сваіх абавязацельстваў перад дзяржавай» («Правда»).

Масава-выхаваўчая работа павінна будавацца на конкрэтных фактах штодзеннай барацьбы за організацыйна-гаспадарчае ўмацаваньне саўгасаў і колгасаў. Трэба выхоўваць радавога колгасьніка, колгасны актыў і рабочых саўгасаў у процэсе барацьбы за якасьць сяўбы, прапolкі і ўборкі, у процэсе выкананьня загатоўчых плянаў, у ходзе соцспаборніцтва і ўдарніцтва, у агні барацьбы з кулаком і антыграмадзкімі элемэнтамі ў саўгасах і колгасах. Не ігнораваць тых сёнешніх

аднаасобнікаў, якія заўтра будуць колгасьнікамі, праводзіць сярод іх актыўную політмасавую работу, праводзіць работу па ўцягненьні іх у колгасы,—адна з задач політаддзелаў.

Стварэньне беспартыйнага актыву вакол партыі—важнейшая задача політаддзелаў.

Бліжэйшая работа політаддзелаў заключаецца ў тым, каб, выкарыстоўваючы вопыт веснавой сяўбы, сконцэнтраваць усю сваю ўвагу на падняцьці папару, на своечасовым правядзеньні праполкі і ўборкі соцыялістычнага ўраджаю і на абавязковай здачы збожжа і бульбы дзяржаве, пераводзячы ўсю гэтую работу на рэльсы масавасьці і соцыялістычнага спаборніцтва.

Усетатарскі зьезд колгасьнікаў-ударнікаў абвясьціў барацьбу за ўсесаюзнае пяршынства ў выкананьні плянаў збожжаздачы дзяржаве. Водгукам на абавязацельствы Ўсетатарскага зьезду колгасьнікаў-ударнікаў зьяўляецца пастанова зьлёту брыгадзіраў Днепрапятроўшчыны, якія заклікаў колгасы вобласьці да барацьбы за пяршынства збожжаздачы на Украіне. Першы этап спаборніцтва за лепшае правядзеньне сяўбы—БССР з Заходняй вобласьцю ўжо завершан. Пачаўся другі этап. Зьлёт старшынь колгасаў, брыгадзіраў, ударнікаў і ўдарных колгасаў Трасьцянскага сельсавету, Менскага раёну, уключыўся ва Ўсесаюзнае спаборніцтва на пяршынства ва ўбор-

цы і пастаўцы збожжа дзяржаве. У гэтае спаборніцтва павінны ўключыцца ўсе саўгасы, колгасы, МТС, раёны і сельсаветы.

Політаддзелы павінны політычна падыходзіць да кожнага факта гаспадарчага жыцьця і навучыць гэтаму падыходу масы колгасьнікаў і рабочых саўгасаў.

Вось што павінны рабіць політаддзелы, каб ажыцьцявіць пастаўленую партыяй і яе правадыром т. Сталіным задачу — зрабіць усе колгасы бальшавіцкімі, зусім моцнымі ў организацыйна-гаспадарчых і політычных адносінах, каб максымальна павысіць іх рэнтабэльнасьць, каб падняць на належную вышыню культурна-бытавы і політычны ўзровень колгасьнікаў, каб зрабіць усіх калгасьнікаў заможнымі.

Вось што павінны рабіць політаддзелы, каб

> **«канчаткова паралізаваць уплыў клясава ворага ў саўгасах і колгасах і дабіцца перамаганьня дробна-буржуазных перажыткаў і ўласьніцкіх тэндэнцый учарайшага аднаасобніка-ўласьніка, сёнешняга колгасьніка»** (з рэзолюцыі студзеньскага пленуму ЦК і ЦКК УсеКП(б)).

Партыйныя і комсамольскія ячэйкі саўгасаў і колгасаў раёну дзеяньня МТС павінны згуртавацца вакол політаддзелаў і разам з імі, пад іх кіраўніцтвам, змагацца за справу

соцыялізму ў вёсцы, за канчатковае зьнішчажэньне ў вёсцы рэшткаў кулацтва і іншых антысавецкіх элемэнтаў і іх уплыву на пасобныя няўстойлівыя праслойкі ў саўгасах, МТС і колгасах.

## ШТО ПАКАЗАЛІ ПЕРШЫЯ ВЫНІКІ РАБОТЫ ПОЛІТАДДЗЕЛАЎ?

Мінула ўсяго толькі некалькі месяцаў, як політаддзелы прыступілі да сваёй адказьнейшай работы.

Партыя паслала ў вёску стойкіх вытрыманых бальшавікоў-організатараў. У політаддзелы СССР ужо накіравана звыш 10 тысяч спэцыяльна адабраных партыйных работнікаў, організавана 2776 політаддзелаў, з іх 2019 політаддзелаў МТС. Пачатак работы большасьці політаддзелаў супаў з разгарам веснавых палявых работ. Часу мінула няшмога, але некаторыя папярэднія вынікі падвесьці ўжо можна.

Асноўнае і рашаючае ў гэтых выніках тое, што політаддзелы на справе ператвараюцца ў сапраўдныя цэнтры згуртаваньня лепшых перадавых элемэнтаў колгаснай вёскі, у важнейшыя вагары партыі ў справе організацыйнага ўмацаваньня колгасаў і МТС.

**Політаддзелы ўжо на сёньня—вялікая сіла.** Гэтая сіла вырастае з аўторытэту, якім партыя ўзнагародзіла політаддзелы і які яны заваёўваюць самі сваёй практычнай работай.

Політаддзелы зьяўляюцца сур'ёзнай гарантыяй супроць кулацкага ўплыву ў колгасах, супроць усялякіх скрыўленьняў, супроць усялякіх агіднасьцяй.

**Політаддзелы адмовіліся з самага пачатку ад канцэлярска-бюрократычных мэтодаў кіраўніцтва.** Яны ідуць у гушчу колгасных мас, непасрэдна на вытворчы вучастак, зьвязваюцца самым цесным чынам з колгасным сялянствам. Вось чаму політаддзел ведаюць колгасьнікі, яны прыходзяць туды з рознымі пытаньнямі і скаргамі, упэўненыя, што чулы політычны падыход да іх справы з боку політаддзельцаў ім забясьпечан.

**Амаль усе політаддзелы пачалі з навядзеньня бальшавіцкага парадку ў МТС.** Яны форсавалі рамонт трактароў і прычэпнага інвэнтару, яны зьніштожылі абязьлічку і ўраўнілаўку, яны з дапамогай масавай работы разгортвалі соцыялістычнае спаборніцтва і ўдарніцтва, яны выганялі з МТС кулацкія, шкодніцкія, антыграмадзкія элемэнты.

Вось, напрыклад, першым крокам політаддзелу Плешчаніцкай МТС было выгнаньне 16 трактарыстаў і 6 работнікаў апарату МТС, якія аказаліся кулакамі і вялі шкодніцкую работу. Політаддзел Полацкай МТС выкрыў шкодніцтва ў рамонтных майстэрнях МТМ. З Ветрынскай МТС політаддзел выгнаў у першыя-ж дні сваёй работы 9 чалавек клясава-чуждых і варожых нам.

З дапамогай політаддзелаў значна рушылася ўперад справа соцыялістычнага спаборніцтва і ўдарніцтва ў МТС. У паасобных МТС політаддзелы правялі дэкаднікі праверкі выкананьня дагавораў паміж трактарнымі брыгадамі і паасобнымі трактарыстамі, выдзелілі адказных за кіраўніцтва і ўлік соцспаборніцтва таварышоў, завялі чырвоныя і чорныя дошкі, чырвоныя і рагожныя сьцягі, дабіліся правільнай пастаноўкі прэміяваньня трактарыстаў, прымацавалі да трактарных брыгад зьменных організатараў-масавікоў.

Усё гэта не магло не адбіцца на якасьці работы МТС. Не выпадкова-ж, што большасьць МТС у бягучым годзе, у параўнаньні з мінулым, куды лепш і больш організавана правяла веснавую сяўбу.

**Больш за ўсё політаддзелы праявілі сябе ў справе ачышчэньня колгасаў ад клясавачуждых элемэнтаў.** Пададзім некалькі прыкладаў.

Тав. Берзін, начальнік політаддзелу Полацкай МТС, расказвае аб наступным характэрным факце:

> «Яшчэ ў мінулым годзе кулак Прохараў, які пралез у колгас імя Сталіна (Брэвэчскі сельсавет), сваёй падрыўной, шкодніцкай работай давёў колгас да страт на 40 тысяч рублёў. Гэты заядлы вораг колгаснага будаўніцтва ня толькі ня быў прыцягнут да судовай адказ-

> насьці, але і сёлета працягваў «гаспадарыць» у гэтым колгасе. У выніку яго «гаспадараньня» ён атрымаў магчымасьць насеньнем, вызначаным для засеву 5 **га,** засяваць 7 **га.** Ён на вачох партыйцаў і комсамольцаў тэтага колгасу гноем, прызначаным для ўгнаеньня вучастку поля ўсёй брыгады, угноіў толькі сваё былое поле, пакінуўшы 31 **га** без угнаеньня».

Работнікі політаддзелу, выкрываючы ў кожным паасобным выпадку клясавых ворагаў, мобілізоўвалі вакол гэтых фактаў партыйна-комсамольскі і беспартыйны актыў колгасьнікаў.

> «Пасьля выкрыцьця кулакоў у гэтым колгасе як паміж брыгадамі, так і ў брыгадах разгарнулася соцспаборніцтва і ўдарніцтва. Быў абвешчан конкурс на лепшыя паказальнікі сяўбы. Па гэтым колгасе мы таксама маем вялікі зрух у справе палепшаньня догляду каня».

Політаддзел Слуцкай МТС у колгасе «Комінтэрн» выкрыў цэлую кулацкую шайку на чале з старшынёй колгасу—былым белым офіцэрам.

Вядома, **праробленая чыстка—гэта толькі пачатак выгнаньня з колгасаў, МТС і саўгасаў антысавецкіх элемэнтаў.** Чыстка, бяс-

спрэчна, яшчэ ня ўскрыла ўсе антысавецкія элемэнты, якія змаглі прыкрыцца званьнем «серадняка» або «бедняка». Але праробленая работа мае аграмаднае значэньне, і перш за ўсё таму, што яна мобілізуе рэволюцыйную пільнасьць партыйна-комсамольскага ядра колгасаў, МТС і саўгасаў і беспартыйнага актыву адданых нам людзей у колгасах і саўгасах.

**У барацьбе за працоўную дысцыпілну ў колгасах стварэньне політаддзелаў адыграла выключную ролю.** Політаддзелы правільна ўхапіліся за гэтае зьвяно як рашаючае і дасягнулі ў барацьбе за працоўную дысцыпліну нямалых рэзультатаў. У сазнаньне колгасных мас усё больш укараняецца ўказаньне т. Сталіна аб тым, што «перамагчы гэтыя труднасьці, г. зн. працаваць чэсна і берагчы колгаснае дабро,—ня так ужо цяжка»,—што задача—усіх колгасьнікаў зрабіць заможнымі—зусім рэальная, зусім ажыцьцявімая задача.

**Усе політаддзелы многа ўвагі ўдзялілі барацьбе за здаровага каня.** Політаддзелы правільна зразумелі, што трактар і конь павінны быць у руках самых адданых, найбольш правераных колгасьнікаў і рабочых саўгасаў. І падобна да таго, як вялася чыстка трактарыстаў, політаддзелы разгарнулі праверку складу конюхаў, праверку (часьцей усяго ўночы) догляду за канём.

Вось яскравы ўзор гэтай барацьбы:

У колгасе «Кастрычнік», Булаўскага сельсавету, Полацкага раёну, у рэзультаце таго, што стайня была ў руках кулакоў, коні былі даведзены да жудаснага стану. Палітаддзельцы ачысьцілі стайні ад кулацкіх пасьледкаў, аддалі пад суд быўшых конюхаў. Суседзі аднаасобнікі, якія ведалі аб цяжкім становішчы з кармамі ў колгасе, у знак ухваленьня рашучых дзеяньняў палітаддзелу прывезьлі колгасу ў пазычку 2 тоны сена. Гэты факт, да рэчы сказаць, сьведчыць аб тым, што палітаддзел карыстаецца аўтарытэтам ня толькі сярод колгаснага сялянства, але і сярод мас заўтрашніх колгасьнікаў—сёнешніх аднаасобнікаў.

**Палітаддзелы правільна зразумелі, што сталая вытворчая брыгада—рашаючы вучастак барацьбы за высокі ўраджай,** і ўсю сваю масава-выхаваўчую работу яны перанесьлі сюды, у брыгаду. Асноўнымі формамі масавай работы, якія прымяняюць палітаддзелы, зьяўляюцца: вытворчыя лятучкі, гутаркі, колектыўнае чытаньне газэт.

**Вялікая работа праароблена палітаддзеламі па згуртаваньні партыйна-комсамольскага ядра ў колгасах,** па ачышчэньні партячэек ад балясту, ад чуждых, ад прымазаўшыхся элемэнтаў. Чыстка партыі, у якой палітаддзелы павінны адыграць буйнейшую ролю, дапаможа палітаддзелам завяршыць на пер-

шай стадыі гэтую работу па згуртаваньні бальшавіцкага ядра ў колгасах.

Рад політаддзелаў пачаў работу па падбору моцных кадраў сакратароў колгасных ячэек. Гэтую работу трэба разгортваць мацней і больш рашуча, бо ня цяжка зразумець, што бяз моцнага кадру сакратароў нельга стварыць моцныя, аўторытэтныя партыйныя ячэйкі ў колгасах.

Політаддзелы ўжо здолелі згуртаваць вакол партыйных і комсамольскіх ячэек, пакуль, праўда, параўнальна невялікі беспартыйны актыў з перадавых колгасьнікаў і рабочых саўгасаў. Прычым, гэты актыў яны, у адрозьненьне ад многіх раённых організацый, шукалі і знаходзілі ня ў сьпісах канцэлярый, а на полі, гародзе, у стайні, каля трактароў, правяраючы кожнага актывіста на справе, на рабоце.

Такія першыя вынікі першых крокаў політаддзелаў. Пададзім пару водзываў саміх колгасьнікаў аб ролі політаддзелаў.

Вось што пішуць у сваім звароце, надрукаваным у «Правде», колгасьнікі-ўдарнікі **Еўпаторыйскага** раёну:

> «Мы на справе пераканаліся ў аграмаднай карысьці політычных аддзелаў, організаваных партыяй у машына-трактарных станцыях і саўгасах. Політычныя аддзелы з першых-жа дзён сваёй работы сталі вернымі прыяцелямі і па-

мочнікамі колгасьнікаў, якія імкнуцца добрасумленна працаваць і ўмацоўваць сваю колектыўную гаспадарку».

А вось другі водзыў. Гэта аб сваім політаддзеле пішуць колгасьнікі-ўдарнікі **Слуцкага** раёну ў пісьме да **т. Гікало.**

«Цяпер, т. Гікало, аб нашым політаддзеле. Падводзячы вынікі палявой сяўбы, мы яшчэ раз горача вітаем пастанову студзеньскага аб'яднанага пленуму ЦК і ЦКК УсеКП(б) аб організацыі політаддзелаў. Мы ўжо ў гэтую вясну адчулі вялікую практычную дапамогу політаддзелу МТС у барацьбе за тэмпы і якасьць сяўбы. Адразу-ж пасьля прыезду нашы політаддзельцы пагрузіліся ў нашы колгасныя будні, у наша колгаснае жыцьцё. Яны яшчэ больш дапамаглі нам ачысьціцца ад кулацкага ахвосьця і шкодніцтва. Вось некалькі прыкладаў:

Пры дапамозе політаддзелу мы выкрылі і выгналі з колгасу «Комінтэрн» цэлую кулацкую зграю на чале з старшынёй Якімовічам, былым белым афіцэрам. Гэтая зграя раскрадала колгаснае дабро.

У колгасе «Новая Млынка» лодыры зрывалі работу. Політаддзел дапамог нам выкінуць з колгасу злоснага лоды-

ра Халустовіча і заклікаць да парадку іншых, пасьля чаго справы ў колгасе палепшыліся.

Дапамагаў політаддзел організоўваць соцыялістычны буксір перадавых адстаючым. Колгасы «Праўда» і «Перамежнік» па ініцыятыве політаддзелу, партыйнай і комсамольскай ячэек узялі на буксір колгас «Новая Млынка», дапамаглі яму 114 коня-днямі. Колгасы «Пераможца», імя Сталіна, «Новы сьвет» організавалі буксір колгасу імя Ботвіна на 186 коня-дзён, і 220 чалавека-дзён. Такім чынам, у многіх іншых нашых колгасах політаддзел організоўваў праверку якасьці нашай работы, тут-жа дапамагаў выпраўляць недахопы і памылкі. Значна палепшылася работа трактарнага парку, але-ж якасьць работы паасобных трактарных брыгад яшчэ не здавальняючая.

Організаваў політаддзел і агітфургон з радыё, кіно і бібліотэкай, які абслугоўвае нашу брыгаду ў полі і ў часе адпачынку.

У многіх нашых брыгадах працуюць агітатары і чытары, якія ў часе перапынку праводзяць з намі чытаньне і політгутаркі. Працуючы на полі, мы ведаем пра ўсе пастановы партыі і ўраду, пра агроправілы, пра сяўбу ў іншых

> колгасах і што робіцца за граніцай... Куды лепш у гэтым годзе працуюць комуністы і комсамольцы ў брыгадах і колгасах... Цяпер мы цьвёрда ўпэўнены, што МТС пры дапамозе політаддзелу стане моцным організатарам нашай колгаснай гаспадаркі».

Было-б наіўна думаць, што політаддзелы ўжо выканалі задачы, якія на іх усклала партыя. Трэба памятаць, што работа, праробленая політаддзеламі за пэрыод падрыхтоўкі і правядзеньня веснавой сяўбы—толькі першыя крокі гэтай новай, маладой організацыі ў сыстэме нашай бальшавіцкай партыі. Уперадзе перад політаддзеламі аграмадная работа, і перш за ўсё, па організацыі ўборачнай і загатоўчай кампаній. Сваячасова і бяз страт убраць увесь ураджай, не пакінуць на полі ні аднаго коласу, ні аднаго зернечка, ні аднэй бульбіны; поўнасьцю і ў тэрмін выканаць абавязацельствы саўгасаў, колгасаў і колгасьнікаў перад дзяржавай—вось што павінны забясьпечыць політаддзелы.

У гэтай важнейшай рабоце—загатоўчай—політаддзелы павінны цалкам выходзіць з указаньняў т. Сталіна:

> «Не засланяйце сваёй увагі клопатам аб фондах і запасах усякага роду, не адыходзьце ад галоўнай задачы, раз-

гарніце збожжазагатоўкі з першых-жа дзён уборкі і форсуйце іх, бо першая запаведзь—выкананьне пляну збожжазагатовак».

## ЧАМУ ТЭРЫТОРЫЯЛЬНЫ ПРЫНЦЫП ПАБУДОВЫ ПАРТОРГАНІЗАЦЫЙ У ВЁСЦЫ ПАВІНЕН БЫЦЬ ДАПОЎНЕН ВЫТВОРЧЫМ ПРЫНЦЫПАМ?

Першыя вынікі работы політаддзелаў, аб якіх мы гаварылі вышэй, атрымалі сваю ацэнку ў рашэньні ЦК УсеКП(б) ад 15-VI 1933 г. «Аб рабоце політаддзелаў МТС, аб колгаснай ячэйцы і аб узаемаадносінах політаддзелаў і райкомаў». Вось гэтая ацэнка:

«Першыя вынікі работы політаддзелаў МТС за час падрыхтоўкі і правядзеньня веснавой сяўбы паказваюць, што політаддзелы сапраўды становяцца важнейшымі вагарамі партыі ў справе організацыйнага ўмацаваньня колгасаў і МТС, ачысткі іх ад клясава-варожых элемэнтаў, узмацненьня організуючай ролі комуністаў і комсамольцаў колгасаў і выпраўленьня недахопаў работы вясковых партыйных організацый. Політаддзелы ператвараюцца ў сапраўдныя цэнтры згуртаваньня лепшых перадавых элемэнтаў колгаснай вёскі».

У гэтым-жа рашэньні ЦК дана разгорнутая пастаноўка пытаньня аб ролі і прынцыпах будовы вясковай партыйнай ячэйкі. Вя-

дома, што наша партыя пабудавана па тэрыторыяльным прызнаку: арганізацыя, якая абслугоўвае які-небудзь раён, лічыцца вышэйшай у адносінах да ўсіх арганізацый, якія абслугоўваюць часткі данага раёну. У адпаведнасьці з гэтым складваецца і сыстэма партыйнага кіраўніцтва.

У цяперашніх умовах соцыялістычнага будаўніцтва аднаго гэтага тэрыторыяльнага прынцыпу недастаткова. Надзвычай узрасьлі задачы партыі па кіраўніцтву вёскай. У рэзультаце перамогі колгасаў **«партыя ўжо ня можа цяпер,**—указваў т. Сталін,—**абмяжоўвацца паасобнымі актамі ўмяшаньня ў процэс сельскагаспадарчага разьвіцьця. Яна павінна цяпер узяць у свае рукі кіраўніцтва колгасамі, прыняць на сябе адказнасьць за работу і дапамагчы колгасьнікам весьці сваю гаспадарку ўперад на аснове даных навукі і тэхнікі».**

Такім чынам, новая абстаноўка, як ніколі, патрабуе конкрэтнага вывучэньня, веданьня і кіраўніцтва кожным колгасам. Між тым, вясковыя партыйныя арганізацыі пабудаваны пераважна па тэрыторыяльным прызнаку, што не забясьпечвае іх сапраўднага павароту да практычных пытаньняў колгаснай вытворчасьці і згуртаваньня большасьці ўнутры колгасаў вакол партыйна-комсамольскага бальшавіцкага ядра. Сапраўды, вясковыя тэрыторыяльныя ячэйкі, якія складаюц-

ца, галоўным чынам, з комуністаў, якія працуюць у сельсавеце, сельпо, пошце, міліцыі, судзе, школе і т. д. і невялікага ліку комуністаў-колгасьнікаў, дрэнна зьвязаны з колгасамі і мала займаюцца вытворчым жыцьцём колгасаў. Гэта прыводзіла і прыводзіць да таго, што і райкомы, якія апіраюцца ў сваёй рабоце на тэрыторыяльныя сельскія партыйныя ячэйкі, аказваюцца ў большасьці сваёй таксама адарванымі ад непасрэднага кіраўніцтва колгасным рухам, ад колгаснага актыву і мас колгасьнікаў.

У зоне абслугоўваньня Вузьдзеньскай МТС да моманту організацыі політаддзелу мелася 12 партячэек. З іх адна ячэйка самой МТС, а ўсе астатнія тэрыторыяльныя ячэйкі пры сельсаветах. Ні аднэй колгаснай вытворчай ячэйкі.

Да моманту організацыі політаддзелу пры Рагачоўскай МТС на тэрыторыі дзеяньня гэтай МТС мелася 11 партячэек выключна пры сельсаветах, г. зн. тэрыторыяльных. Адсутнічалі партгрупы і парторганізатары пры колгасах. Як толькі політаддзел Рагачоўскай МТС прыступіў да сваёй работы, ён няміnуча сутыкнуўся з неабходнасьцю перабудаваць структуру партыйных ячэек, організаваўшы іх па вытворчым прызнаку пры колгасах, перакінуўшы рад комуністаў непа-

срэдна ў колгасы для ўмацаваньня вытворчагаспадарчай і партыйнай работы.

У зоне абслугоўваньня Ветрынскай МТС да моманту організацыі політаддзелу мелася 12 партячэек, з іх толькі адна вытворчая колгасная, а ўсе астатнія тэрыторыяльныя, пры сельсаветах, якія складаюцца з комуністаў, што працуюць у колгасах, і, галоўным чынам, сельскіх установах.

Існуючыя тэрыторыяльныя ячэйкі былі адарваны ад вытворчага жыцьця колгасаў, не ажыцьцяўлялі кіраўніцтва колгасамі. Партсілы ў брыгадах ня былі расстаўлены. Член партыі, прымацаваны да колгасу «Ленінскі прамень», ніводнаго разу ня быў у колгасе, а ячэйка, адарваная ад жыцьця і патрэб колгасу, ніякіх мер ня ўжыла. Другі член партыі прымацаваны да другога колгасу таксама ні адзін раз ня быў там, не плаціў 6 месяцаў членскіх узносаў, а ячэйка і на гэта не рэагавала. Рад ячэек слаба і ў многіх выпадках зусім ня ведаў беспартыйнага колгаснага актыву, ня вёў масава-політычнай работы. Нядзіўна таму, што пры такім «кіраўніцтве» колгасамі з боку партячэек некаторыя колгасы аказаліся засьмечанымі кляса-ва-чуждымі элемэнтамі. Адзін з членаў праўленьня колгасу «Ленінскі прамень» аказаўся былым буйным арандатарам і, натуральна, таксама, што політаддзел МТС, прыступа-

ючы да сваёй работы, адразу-ж узяўся за перабудову партыйных ячэек па вытворчым прынцыпе.

Пастановай ЦК УсеКП(б) ад 15-VI існуючыя тэрыторыяльныя вясковыя партыйныя арганізацыі павінны быць перабудаваны такім чынам, каб «побач з **тэрыторыяльнымі** ячэйкамі сельскіх устаноў існавалі спэцыяльныя колгасныя **вытворчыя** ячэйкі».

Асноўнае цяпер заключаецца ў тым, каб стварыць у колгасах моцныя вытворчыя ячэйкі, цесна зьвязаныя з колгаснымі масамі, здольныя ажыцьцяўляць кіраўніцтва вытворчым жыцьцём колгасаў. Колгасная ячэйка павінна стаць яшчэ бліжэй да вытворчасьці, чым цяпер. Цэнтр работы ячэйкі павінен быць перанесен у колгасную брыгаду. Цалкам апраўдаўшая сябе на вопыце перадавой у Саюзе Безенчукскай МТС сыстэма партыйных груп і парторгаў у брыгадах павінна быць перанесена на ўсе МТС.

Ці азначае гэта, што даным рашэньнем тэрыторыяльныя, сельскія партыйныя ячэйкі ліквідуюцца? Не, яны астаюцца. Комуністы, якія працуюць у даным сяле, але не працуюць у колгасе, аб'ядноўваюцца ў тэрыторыяльную сельскую партыйную ячэйку. Комуністы-ж, якія жывуць у даным сяле і працуюць у колгасе, арганізацыйна выдзяляюц-

ца ў самастойную колгасную ячэйку або кандыдацкую групу.

> «Пры адсутнасьці ў колгасе неабходнай колькасьці комуністаў, комуністы—члены данага колгасу, організацыйна выдзяляюцца з сельскай тэрыторыяльнай партыйнай ячэйкі і, організуючы вакол сябе спачуваючых і комсамольцаў—членаў данага колгасу, складаюць партыйна-комсамольскае ядро колгасу».
>
> «У колгасах-жа, якія ня маюць комуністаў, організуецца група спачуваючых на чале са спэцыяльна прымацаваным да яе парторганізатарам.

Так, дапаўняючы тэрыторыяльны прынцып пабудовы сваіх вясковых організацый вытворчым прынцыпам, партыя, разгортваючы справу стварэньня колгасных партыйных ячэек, зможа забясьпечыць сапраўды бальшавіцкае кіраўніцтва колгасамі.

## ЯК ТРЭБА ОРГАНІЗАВАЦЬ УЗАЕМААДНОСІНЫ ПАМІЖ РАЙКОМАМІ ПАРТЫІ І ПОЛІТАДДЗЕЛАМІ?

На гэтае пытаньне пастанова ЦК УсеКП(б) ад 15-VI 1933 г. дае абсолютна чоткі і ясны адказ. Але перш за ўсё трэба высьветліць, чаму наогул гэтае пытаньне ўстала і чаму партыя толькі пасьля некалькіх месяцаў ра-

боты політаддзелаў палічыла неабходным удакладніць гэтыя ўзаемаадносіны.

На першым этапе партыя ня лічыла патрэбным складаць кодэкс узаемаадносін політаддзелаў і райкомаў. Яна стаяла на тым пункце гледжаньня, што гэтыя ўзаемаадносіны складуцца ў процэсе работы, у процэсе барацьбы за організацыйна-гаспадарчае ўмацаваньне колгасаў. Яна стаяла і стаіць на тым пункце гледжаньня, што «добрыя бальшавікі, якія падыходзяць да пытаньня не формальна, не бюрократычна, заўсёды знойдуць агульную мову, заўсёды згаворацца адзін з адным у вырашэньні тых складанейшых задач, якія стаяць перад намі» (Л. Кагановіч).

Але цяпер становішча зьмянілася. З аднаго боку, організацыйны пэрыод стварэньня політаддзелаў МТС і саўгасаў да гэтага часу ў асноўным закончан. Політаддзелы заваявалі аграмадны аўторытэт,ператварыліся ў вялікую політычную сілу. Няяснасьць ва ўзаемаадносінах паміж райкомамі і політаддзеламі МТС, асабліва ва ўмовах надзвычай выросшых задач партыі па кіраўніцтве сельскай гаспадаркай, можа ўжо адыграць ролю пэўнага тормазу, пэўнай перашкоды ў далейшым разгортваньні барацьбы партыйных організацый за організацыйна-гаспадарчае і політычнае ўмацаваньне колгасаў.

Пераважная большасьць мясцовых партыйных організацый зразумела гістарычнае рашэньне партыі і аказвае політаддзелам сур'ёзную дапамогу ў іх рабоце.

Але ўсё-ж многія партыйныя організацыі аказаліся не на вышыні становішча, не зразумелі бліжэйшых задах партыі і аказаліся ў палоне опортунізму. Мы маем ня мала выпадкаў трэньняў паміж райкомамі і політаддзеламі, рад выпадкаў антыпартыйных адносін паасобных райкомаў да політаддзелаў. Нядаўна «Правда» ў артыкуле «Ўсямерную дапамогу політаддзелам МТС і саўгасаў» паведамляла аб цэлым букеце падобных фактаў. «Зьвязда» ад 21/VI паведамляла таксама аб антыпартыйных адносінах работнікаў Старадарэскага райкому да політаддзельцаў.

Работнікі політаддзелу МТС былі на палёх, устанаўлялі опэрацыйныя пляны сяўбы па колгасах і дабіваліся іх выкананьня,—назаўтра сакратар Старадароскага райкому і старшыня райвыканкому, праяжджаючы па колгасах раёну дзейнасьці МТС, адмянілі ўстаноўленыя работнікамі політаддзелу тэрміны сканчэньня сяўбы і ўстанавілі другія, больш працяглыя тэрміны.

Ня лепш і ў Полацку.

Як відаць з пісьма начальніка політаддзелу Полацкай МТС («Зьвязда» ад 18/VI), кіруючыя работнікі гэтага раёну яўна ня ўсвоілі новых задач работы ў вёсцы і замест

усямернай дапамогі політаддзелам усяляк тармазілі работу політаддзелаў. Політаддзел лічыў неабходным правесьці нараду сакратароў ячэек раёнаў дзеяньня МТС, але аказалася, што гэта магчыма зрабіць толькі з дазволу райкому...

На нарадзе выступіў сакратар райкому, але чамусьці «забыў» што-небудзь сказаць аб ролі і задачах політаддзелу...

Рэдактар райгазэты адмовіўся зьмясьціць артыкул начальніка політаддзелу аб выяўленых фактах клясавай барацьбы ў колгасах...

Калі да гэтага яшчэ дадаць, што політаддзелам раёну ня былі створаны адпаведныя бытавыя ўмовы для нормальнай і пладатворчай работы, то атрымліваецца клясычны ўзор таго, якімі не павінны быць адносіны райкому да політаддзелаў.

**Тав. Гікало** з усёй катэгорычнасьцю заявіў на нарадзе сакратароў райкомаў ЛКСМБ і пампалітаддзелаў МТС па комсамольскай рабоце:

> «Партыя паслала ў БССР 37 лепшых работнікаў-бальшавікоў, і мы недазволім раённым работнікам перашкаджаць ім, або не аказваць ім дапамогі ў іх вялікай сур'ёзьнейшай рабоце».

Як-жа павінны будавацца гэтыя ўзаемаадносіны і дапамога, з чаго яны павінны складвацца?

> «Новыя ўмовы работы ў вёсцы,—гаворыцца ў пастанове ЦК УсеКП(б),—патрабуюць, каб былі ліквідаваны трэньні паміж райкомамі і політаддзеламі і была створана яснасьць у іх узаемаадносінах».
>
> «Не аб падначаленьні політаддзелаў райкомам павінна ісьці гутарка, а аб усямернай і ўсялякай дапамозе ім з боку райкомаў».

Пастанова ЦК накіравана супроць спроб паасобных райкомаў перашкодзіць політаддзелам выканаць задачы, ускладзеныя на іх партыяй, і дае вычарпальныя ўказаньні, хто і ў якой меры павінен кіраваць колгаснымі ячэйкамі.

> «Колгасныя ячэйкі, кандыдацкія групы і групы спачуваючых у колгасах, **абслугоўваемых МТС,** працуюць пад кіраўніцтвам політаддзелаў МТС і выконваюць, як абавязковыя для іх, дырэктывы політаддзелаў МТС, у межах пытаньняў дзейнасьці МТС, вызначаных рашэньнем пленуму ЦК і ЦКК ад 7/I 1933 г. Па ўсіх астатніх пытаньнях жыцьця сяла (савецкае будаўніцтва, фі-

нансы, асьвета, прапаганда і інш.) ячэйкамі гэтых колгасаў кіруюць райкомы, таксама як райкомы кіруюць тэрытарыяльнымі ячэйкамі і вытворчымі ячэйкамі не абслугоўваемых МТС колгасаў, але ўжо па ўсіх без выключэньня пытаньнях.

Палітаддзелы інструктуюць і правяраюць работу колгасных ячэек раёну дзеяньня МТС, праводзяць зьняцьце і перамяшчэньне сакратароў колгасных ячэек, кіруець перавыбарамі бюро ячэек, зьбіраюць нарады сакратароў колгасных ячэек УсеКП(б) і ЎсеЛКСМ, парторгаў брыгад, сходы партактыву, агульныя сходы комуністаў і комсамольцаў колгасу, прычым перавод комуністаў і комсамольцаў гэтых колгасаў па-за раёнам дзейнасьці МТС ня можа праводзіцца бяз згоды палітаддзелу МТС.

Аб сваіх мерапрыемствах па кіраўніцтве ячэйкамі, у тым ліку па зьняцьцю, замене і перамяшчэньні сакратароў партыйных ячэек МТС і колгасаў раёну дзейнасьці МТС, палітаддзелы інфармуюць райком, прычым, у выпадку рознагалосься, пытаньне вырашаецца першым сакратаром абкому разам з начальнікам палітсэктару».

Політаддзел павінен стаць і стане сапраўдным палітычным цэнтрам колгаснай вёскі. Такава воля партыі. І ў гэтым політаддзелам павінна дапамагчы ўся КП(б)Б.

ЦАНА 20 кап.



НА БЕЛОРУССКОМ ЯЗЫКЕ

Агитмассовый отдел
ЦК КП(б)Б

Блок-нот агитатора
№ 12 (27) июнь

Про политотделы МТС, совхозов
и про колхозную ячейку

Государственное Издательство
Белоруссии
Партмассектор
Минск — 1933